

## Мішка

Мішку скінулі з канапы,
Мішку адарвалі лапу.
Я яго адрамантую
І цукеркай пачастую.



# Казьляня

Гадаванец мой ўлюбёны
Маладое казьляня,
Я яго у сад зялёны
Пасьвіцца ваджу штодня.
Калі раптам заблукае,
Я заўсёды адшукаю.

## Конь

Я люблю свайго каня.
Грыву й поўсьць чашу штодня.
Прымаглюю* грэбням хвосьцік.
Да сяброў паеду ў госьці.

*прымагліваць (што, каго) — пригладить, причесать

# Грузавік

Мы ката паспрабавалі
Пракаціць на самазвале.
Кот катацца не любіў,
Грузавік перакуліў.



# Зайка

Зайку кінулі на лаўку
І забыліся у парку.
Зьлезьці долу ён ня мог
І пад дожджыкам прамок.



# Слон

Ноч прыйшла, заснуў бычок,
Павярнуўся на бачок.
Мішка сон салодкі сьніць,
Толькі слон яшчэ ня сьпіць.
Ён хітае галавой:
"Добрай ночы, дружа мой!"






# Бычок

Ідзе бычок, хістаецца,
Бядуе: «Ай-яй-я!
Вось дошчачка сканчаецца,
Звалюся зараз я!»

Вершы Агніі Барто.
пераклад: Сяржук Сокалаў-Воюш, Тацяна Папова
мама Halia